Год II. Красавік № 4 (14).

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі“.

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

## ЗЬМЕСТ № 4.




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, — Красавік 1930 г. | № 4 (14). |
|---|---|---|

*Усім нашым Паважаным Падпісчыкам, Супрацоўнікам, Прыхільнікам і Чытачом жадаем вясёлых Вялікодных сьвят!*

## *НА ВЯЛІКДЗЕНЬ.*

*Найбольшым і найурачысьцейшым сьвятам у нас на Беларусі ёсьць Вялікдзень. Сам ужо назоў гавора аб яго вялічыні.*

*І сапраўды, сьвята Вялікдзень гэта Вялікі Сьвяты Дзень — Дзень зьмёртвыхустаньня Хрыста — Бога, якога, як ведаем, злыя людзі ўкрыжавалі за Яго сьвятую справядлівую навуку. Па сьмерці-ж нават паставілі страж каля гробу Яго.*

*Вось-жа гэта сьвята, сьвята перамогі Хрыста — Справядлівасьці, Красы і Дабра прыпадае ў нас заўсёды вясной у найпрыгажэйшы час жыцьця нашага і дзеля гэтага слушна называюць яго сьвятам вясны-жыцьця і працы, бо ад гэтай бадай пары распачынаецца ў нас самая галоўная польная работа.*

*У гэты Дзень, калі глянем мы на наш беларускі народ, дык убачым на яго твары нязвычайную радасьць. На першы дзень сьвята на вёсцы нашай гучным рэхам плывуць сьвятыя песьні беларускай моладзі на хвалу і чэсьць Справядлівасьці.*

*Мы беларускія юнакі, бачачы і адчуваючы гэтую вялікую радасьць Вялікага Сьвята перамогі Справядлівасьці, мусім узяць яго пад увагу. Факт-жа гэтага сьвята гавора нам аб тым, што Праўда і Справядлівасьць раней ці пазьней заўсёды пераможа зло і нягоднасьць.*

*Ня трэба хіба сяголаньня пісаць і гаварыць, бо і вельмі цяжка, аб тым, што робіцца на землях Беларусі, бо кажды з нас добра гэта адчувае, а моладзь перадусім.*

*Дзеля гэтага мы павінны ўвааружыцца ў цярплі-*

*васьць, узгадаваць сябе добра, здабыць моцнага духа, сілу і стаць яшчэ з большай заўзятасьцю да барацьбы за належныя нам правы, за волю, роўнасьць і свабоду, ідучы дарогай справядлівасьці і праўды.*

*Калі ж мы гэтак пастулаць будзем, — напэўна прыдзе час, калі сьвята Вялікадня будзем сьвяткаваць з падвойнай урачыстасьцю і радасьцю. І што песьня сьвятая на чэсьць Божай Праўды, Дабра і Справядлівасьці з нашых маладых беларускіх грудзей у роднай мове, яшчэ гучнейшым рэхат адаб'ецца ўрэшце па ўсей ужо Вольнай Беларусі!*

*Я. Н.*

## ХРЫСТОС УСКРОС!

Хрыстос ускрос, Хрыстос ускрос!
На цэлы сьвет гудзе так звон.
Надзею нам ў душу прынёс,
Стаптаўшы зло на векі Ён.
Хрыстос ускрос, хоць жыў, як Бог—
Навука так Яго рачэ.—
На сьвеце цьму разсеяў — змог
І праўда ўсім людзям цячэ.
Хрыстос ускрос для нас — людзей,
Каб даць нам знак, што сам Ён—Бог,
Што любіць нас — сваіх дзяцей,
Падняўшы ўсіх з пад цемры ног.
Хрыстос ускрос, за волю ўсіх,
Каб зьдзек людзей прапаў на век,
Каб кожны на'т і з тых „малых“
Зрабіўся-б роўны чалавек.
Для нас Ён так-жа уваскрос,
Каб мы таксама аджылі.
Свабоду Ён і нам прынёс,
Каб вольным людам мы былі.
Хрыстос ускрос — гудуць званы,
А рэха хвалямі плыве,
І радасьць ўсім нясуць яны,
Што праўда Божая жыве.
А ў звоне тым я чую тон:
„Чаму Крывіч яшчэ ня ўскрос?
Ў яго краю чуецца стогн
І мора там плыве ад сьлёз.“
О Божа наш, збудзі Ты нас,
Ўскрасі Ты край стаптаны той,
Дзе вораг злы знайшоў папас
І мучыць ўсьцяж нядоляй злой.

**Марвіч.**

# Сьвяткаваньне ў Вільні 12-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Сьвяткаваньне 12-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў гэтым годзе ў Вільні адбылося вельмі ўрачыста. Беларускі Нацыянальны Камітэт, як інстытуцыя аб'едныўваючая ў сабе ўсе беларускія аргарізацыі, ўзяў на сябе кіраўніцтва сьвяткаваньня гэтай беларускай народнай урачыстасьці.

Сьвяткаваньне 12-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Вільні ўшанавалі сваей прысутнасьцяй прадстаўнікі паважаных нашых суседзяў Украінцаў у асобах старшыні ўкраінскай парлямэнтарнай рэпрэзэнтацыі ў Польшчы др. Д. Левіцкага, віцэ-маршалка Сойму В. Загайкевіча, паслоў айца пралата Куніцкага, Д. Палііва і С. Кузыка, якія прыехалі ў Вільню 25 сак віка раніцай. На станцыі паважаных гасьцей спаткалі сябры прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту, прадстаўнікі Беларускага пасольскага Клюбу, беларускай Студэнскай моладзі і прадстаўнікі моладзі згуртаванаў каля нашае часопісі.

Згодна з праграмай сьвяткаваньня а гадз. 10-ай раніпы ў касьцеле сьв. Мікалая кс. А. Станкевіч у асысьце ксяндзоў беларусаў адправіў урачыстую Імшу, у часе якой касьцельны беларускі хор пяяў і пабеларуску і палаціне рэлігійныя песьні. Пасьля Імшы кс. др. Я. Рэшаць у прыгожых словах сказаў пабеларуску адпаведнае да ўрачыстасьці казаньне. Касьцёл у часе набажэнства быў біткам напоўнены людзьмі, сярод якіх былі прадстаўнікі ўкраінскага і літоўскага народу.

А гадз. 11 у Пятніцкай царкве адправіў малебен і сказаў казаньне пабеларуску, адпаведнае да ўрачыстасьці 12-х угодкаў, сьвяшч. А. Коўш. У маленькай гэтай царкоўцы народ ня мог зьмясьціцца і дзеля гэтага ўвесь час малебену многа людзей стаяла каля царквы.

А 12 гадз. у царкве сьв. Мікалая адправіў малебен і сказаў таксама пабеларуску казаньне сьвяшч. Кушнёў.

А 1-й гадз. у Біленскай Беларускай Гімназіі была наладжана сьвяточная акадэмія для вучняў гэтае гімназіі.

А гадз. 6 вечарам у салі Ганцлёва-Прамысловага Клюбу была наладжана ўрачыстая акадэмія.

У хуткім часе вялізарная саля была поўная людзей, сярод якіх былі прыехаўшыя прадстаўнікі ўкраінцаў, ліцьвіноў у асобах кс. праф. П. Краўяліса і старшыні Тымча-

совага Літоўскага К-ту К. Сташыса, палякаў дэмакратаў і сацыялістаў, жыдоў і расейцаў.

На эстрадзе віднела „Пагоня“ ў дэкарацыі беларускіх нацыянальных бела-чырвона-белых штандараў і патрэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Акадэмію адчыніў старшыня Бел. Нацыянальнага Камітэту сэнатар В. Багдановіч, на прапазыцыю якога прысутныя на салі ўшанавалі памяць памёршых змагароў за беларускую незалежнасьць устаньнем.

Пасьля гэтага кс. В. Гадлеўскі вельмі ўдала прачытаў рэфэрат з гісторыі змаганьня беларусаў за незалежнасьць п. н. „Разьвіцьцё беларускае незалежніцкае думкі ад аўтаноміі да незалежнасьці“.

Па рэфэраце выступіў з прывітаньнем ад Украінскага Народу старшыня ўкраінскай парлямэнтарнай рэпрэзэнтацыі пасол др. Д. Левіцкі, які заявіў, што ўкраінскі народ заўсёды быў і будзе на старане народу беларускага.

Вітаючы-ж гр. Сташыс, старшыня Тым. Літоўскага К-ту, ад літоўцаў палітоўску, выразіў салідарнасьць народу літоўскага з народам беларускім, закончыўшы сваю прамову пабеларуску: „Няхай жыве Беларуская Рэспубліка“.

Ад жыдоўскага грамадзянства выступаў з прывітаньнем пажыдоўску др. Выгодзкі, закончываючы прамову пабеларуску: „Няхай жыве вольная Беларусь“.

Ад расейскага грамадзянства вітаў старшыня „Русскаго Общества“ ў Вільні адвакат Крэстьянаў, які закончыў сваю прамову: „Няхай жыве вялікі беларускі народ“.

Далей студэнт украінец Сагайко, старшыня Украінскага Студэнскага Кружка ў Вільні, прамаўляючы ад украінскае моладзі, высказаў шчырую і моцную сувязь паміж украінскай і беларускай моладз'ю ў агульных мэтах украінскага і беларускага народу і закончыў славамі: „Няхай жыве беларуская дзяржава“.

Старшыня Літоўскага Студэнскага Саюзу студэнт Юшкевіч у прывітальнай сваей прамове палітоўску ад літоўскае моладзі заклікаў да супольнае працы і кончыў сваю прамову наступнымі славамі: „Няхай жыве беларуска-літоўскае брацтва“.

Пасьля гэтага былі прачытаныя прывітальныя тэлеграмы з заграніцы і з краю. Паміж іншымі ад праф. др. Янкі Тарасэвіча з Ню-Ёрку з Амэрыкі і кс. Віктара Шутовіча таксама з Амэрыкі.

Канцэртную часьць выканаў хор пад кіраўніцтвам гр. Мацьвійца, які вельмі прыгожа прапяяў некалькі беларускіх народных песень. Студэнт Я. Малецкі вельмі ўдала прадэклямаваў верш А. Бартуля, пасьвячаны ўгодкам Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі — „Завіхрылася буйна мяцеліца“.

Акадэмія закончана была адпяяньнем беларускага гымну „Ад векаў мы спалі“.

---

26 сакавіка с. г. Паважаныя госьці і прадстаўнікі Украінскага Народу старшыня ўкраін. парл рэпр. др. Д. Левіцкі, віцэ-маршалак Сойму В. Загайкевіч, айцец пралат пасол Куніцкі, пасол Д. Паліїў і пасол С. Кузык а гадз. 11 выехалі ў Варшаву. На станцыі праводзі Паважаных Гасьцей беларускія паслы і прадстаўнікі беларускай моладзі.

---

Як бачым, сьвяткаваньне 12-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі выразна паказвае, хто наш прыяцель, з кім мы павінны і як супольна працаваць, па якім шляху ідучу можам мы дабіцца да спаўненьня вялікіх заданьняў — да зьдзейсьненьня ідэалу Незалежнасьці Беларусі.

Сяньня нам, беларускай моладзі, зразумеўшы словы высказаныя на сьвяткаваньні праз нашых прыяцеляў Украінцаў і Літвіноў трэба старацца далей і мацней заціскаць вузлы прыязьні з украінскай і літоўскай моладз'ю. Тое-ж, што ёсьць сяньня ўкраінскае і літоўскае павінна нам быць таксама дарагім, як беларускае і калі клічам: „няхай жыве Вольная Беларусь“, дык клічма разам: „няхай жыве Вольная Украіна і вольная Літва“....

**(З.)**

---

# Францішак Багушэвіч.

## МАЦЕЙ БУРАЧОК — СЫМОН РЭЎКА З ПАД БАРЫСАВА.

*(У 30-я ўгодкі сьмерці Ягонай: 15.IV.1900—15.IV.1930 г.)*

Ад часу злучэньня нашага Краю ў 1569 г. з Польшчай' праводзілася сыстэматычная полёнізацыя беларусаў і Беларусі. Дайшло ўрэшце да таго, што ў 1696 г. ужо спалячаная беларуская разам з польскай шляхта пастанаўляе замяніць беларускую мову ў урадах на польскую.

Благое-ж кіраваньне дзяржавай даводзіць Польшч да таго, што ў канцы XVIII ст. дзеляць яе на тры часьці суседнія дзяржавы: Расея, Нямеччына і Аўстрыя. Беларусь-жа дастаецца пад панаваньне Расеі.

Гэта было для нас йшчэ большым бічом. Вялізарная сіла Маскоўшчыны пачала русыфікаваць беларусаў. Вось-жа ўсё тое беларускае, што асталося ад полёнізацыі, прадусім у цэрквах праваслаўных, уніяцкіх і каталіцкіх, бязьлітасна глумілі расейцы.

Здавалася, што ўжо будзе па ўсім. Беларусы загінуць. Аднак не! Дух народны беларускі жыў далей.

У 1840 г. у глухіх Кушлянах ў Ашмяншчыне прыходзе на сьвет Францішак Багушэвіч, які здабыўшы вышэйшую асьвету (быў адвакатам), зразумеў крыўду, якая дзеіцца беларускаму народу і пазнаў праўду. Гэтай праўдай і ведай пачаў ён дзяліцца з другімі.

Францішак Багушэвіч пісаў і выдаваў вершы. Выдаў ён іх у двух зборніках: адзін з іх назваў „Дудка беларуская“ і падпісаў выдуманым прозьвішчам: „Мацей Бурачок, а другі назваў: „Смык беларускі“, падпісаўшы так-жа прозьвішчам выдуманым: Сымон Рэўка з пад Барысава. Ходзяць чут-



Францішак Багушэвіч.

кі, што пісаў ён вершаў беларускіх больш, аднак гэта нясьцьверджана і калі яны дзе ёсьць, дык толькі ў рукапісах.

Ня менш, як самыя творы, — аб працы і поглядах Ф. Багушэвіча сьведчаць прадмовы, каторыя ён даваў да зборнікаў. У прадмове да „Дудкі Беларускай“ між іншым Ф. Багушэвіч піша:

„Брацьцы мілыя, дзеці Зямлі — Маткі мае! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, дый не адны мы, а ўсе людзі цёмныя „мужыцкай“ завуць, а завецца яна беларускай. Я сам калісь думаў, што мова наша — мужыцкая“ мова і толькі таго! Але, паздароў Божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць-пісаць, з тае пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і прakанаўся, што мова нашая ёсьць такая-ж людзкая і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Чы-

таў я ці мала старых папераў па дзьвесьце, па трыста год таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, якбы вось цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: „Божа-ж мой, Божа! што-ж мы за такія бяздольныя? — !якаясь маленькая Баўгарыя — са жменьку таго народу, Харваты, Чэхі, Маларусы (г. знача Украінцы — Рэд,) і іншыя пабратымцы нашыя і розны чужы зброд, Жыды маюць пасвойму пісаныя і друкаваныя кніжачкі і газэты, і набожныя і сьмешныя, і сьлёзныя і гісторыйкі і баячкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як-бы захацеў цыдулку, ці да бацькі лісток напісаць пасвойму, дык можа-б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што „піша памужыцку“ і як дурня абсьмяялі-б! А можа і запраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць ня можна? Ой не! Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і іншым добрым людцом і гаворым-жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць пафранцуску, як пасвойму“.

Пад канец гэтае прадмовы Фр. Багушэвіч, Бацька беларускага адраджэнскага руху, сказаў моцныя і гарачыя словы: **„Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі.“!**

Падобныя-ж матывы знаходзім мы і ў прадмове Ф. Багушэвіча да „Смыка беларускага“.

Як у „Дудцы“, так і ў „Смыку“ Ф. Багушэвіч апрача беларускіх ідэяў нацыянальных, народніцкіх, праводзе такжа ідэі соцыяльныя, красамоўна і рэальна малюючы цяжкое соцыяльнае палажэньне нашага сялянства і тыя зьдзекі, якія яно зносіла ад паноў і царскіх маскоўскіх уладаў.

Сягоньня ў 30-я ўгодкі сьмерці Бацькі нашае адраджэнскае беларускае працы, беларуская моладзь павінна паважна застанавіцца над Яго вялікімі славамі, над Яго думкамі і імкненьнямі. Зважма на тое, што шмат яшчэ ў нас ёсьць цяпер такіх, каторыя забываюць сваю родную беларускую мову, чураюцца яе, што нашыя малодшыя браты і сёстры вучацца ў школе ў чужой нязнанай мове, дзе калечаць душы свае маладыя, што ў царкве і ў касьцеле пануе мова чужая, памятаймо ўрэшце, што селянін наш церпіць вялікую соцыяльную нядолю... А раскрыў нам гэтыя раны і даў лекі на іх наш Вялікі Ф. Багушэвіч.

Дык Браты маладыя! Каму дарагая доля беларускага народу і Беларусі, каму мілы бацька, маці, хто хоча дабра для сябе — ушануйма сьветлую памяць нашага Бацькі Францішка Багушэвіча і верна споўнім Яго тэстамэнт: **„Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі“. ...„Каб я панам ніколі ня быў,... Сваё дзела, як трэба любіў“...**

**Я. Н.**

# Крыху з нашай гісторыі.

(Глядзі № 3 „Шляху Моладзі.“)

**Разьмяшчэньне крывіцкага племя і грамадзкі лад.**

Трэба зазначыць, што старадаўных вестак аб Усходніх Славянах маем вельмі мала, разумеецца вестак, запісаных летапісцамі. Аб Паўдзённых Славянах вестак ёсьць больш, бо яны жылі бліжэй да тагачаснага цывілізаванага сьвету. Аднак, ня гледзячы на гэта, сьмела можна цьвердзіць з даволі пэўнай дакладнасьцю аб размяшчэньні старадаўнага крывіцкага племя, аб яго тагачаснай рэлігіі, грамадзкім ладзе, абычаях і г. д., бо аб гэтым сьведчаць старадаўныя памятнікі: архэолёгія, лінгвістыка—мовазнаўства і інш.

Успамінаў я ўжо ў папярэднім нумары „Ш. М.“, што Славяне пры размяшчэньні займалі сабе аселішчы пераважна на ўзбярэжжах рэк і вазёраў, бо галоўным іх заняткам і промыслам было: промысл лясны, паляўніцтва, пчалярсва, рыбалоўства і гадоўля скаціны. Спачатку Славяне земляробства ня зналі, дый ня было патрэбы гэтым займацца, бо багатая прырода краю і так здаваляла іхныя патрэбы пражыцьця і дзе я гэтага не ахвотна рассяляліся на палёх.

Беларускі народ стварыўся з старадаўнага племя — Крывічоў, з якога пазьней паўсталі дзьве галіны крывіцкага племя — гэта Дрыгвічы і Радзімічы. Гэтыя дзьве галіны крывіцкага племя былі малымі і слабымі, так што па іх у гісторыі мала засталося сьледу. Затое найгалаўнейшую ролю ў гісторыі ня толькі Беларусі, але ўсіх Усход. Славянаў адыграла старое племя — Крывічы.

Пры размяшчэньні славянскіх плямёнаў, крывіцкае племя рассялілася: на вярхоўі Заход. Дзьвіны, Дняпра, Волгі і Волхавы.

Найдаўнейшым аселішчам Крывічоў быў Ізборск, далей пасуваючыся на Захад залажылі яны Полацак на Дзьвіне і ўрэшце аж на Паўд.-Захадзе над ракой Бугам залажылі Драгічын. Калі Крывічы на сваіх аселішчах умацаваліся і размножыліся, пачалі тварыць провінцыянальныя цэнтры, як быццам дзяліліцца і разыходзіцца. Ужо ў пачатку IX ст. Крывічы займалі наступныя месцы, дзе тварылі новыя цэнтры — гарады: на ўсім парэччы ракі Прыпяці: Тураў і Драгічын, верхняе і сярэдняе парэчча Дзьвіны з гор. Усьвятам і Полацкам, вярхоўе Волгі, верхняе і сярэдняе парэчча Дняпра з гор. Смаленскам і Любечам, парэччы Волхава і Вялікай з гор. Ноўгарадам і Псковам.

Гэтак расшыраўшамуся ў ва-ўсе бакі крывіцкаму племю не хапала ўжо ўзьбярэжжаў рэк і вазёраў, дзеля чаго

былі яны змушаны рассяляцца там, дзе было месца. Такім чынам Крывічы мусілі сяліцца на балотах (дрыгве), на палёх, у лясох і на горках. І вось па месцы размяшчэньня ім даваліся назовы. Прыкл. тых Крывічоў, каторыя пасяліліся на Палесьсі (на балотах, дрыгве), назвалі Дрыговітамі ці Дрыгавічамі. Тых, каторыя пасяліліся ў лясох на Бярэзіне і Дняпры, называлі Дрэўлянамі. Іншыя атрымалі назовы ад гарадоў, прыкл. Смаленцы, Палачане і Наўгародцы. Дзьве з галінаў крывіцкага племя былі сарганізаваныя, як быццам у дзяржаву, праз старшын Радзіма і Вяткі; вось гэтыя галіны і атрымалі назовы ад імя сваіх старшын: Радзімічы і Вяцічы.

Што Крывіцкае племя ў даўнейшыя часы было ў такіх межах рассяліўшыся, на гэта няма абсалютна ніякага сумніву, бо найвыразьней сьведчыць аб гэтым адзінства крывіцкай мовы на гэтых тэрыторыях. Хоць некаторыя з даўнейшых крывіцкіх аселішчаў цяпер зусім зрусыфіжаваныя і лічацца за цалком маскоўскія, аднак у іхнай мове і топографічных назовах і сягоньня сустракаем асаблівасьці крывіцкай мовы за выняткам Ноўгарада, Пскова і Любеча.

П. Н. Батюшковъ, „Бѣлaруссія і Літва. Історическія судьбы Сѣверо-Западного Края“) кажа, што Крывічы апрача ўспомненых тэрыторыяў займалі яшчэ абшары на паўднёвым захадзе на рацэ Дзьвіне аж да Дынабургу (па стараму Неўгін) і далей пасоўваліся на паўдн. захад на ніжняе цячэньне рэк Вяльлі і Нёмана, мяшаючыся з Літоўскімі плямёнамі.

Трэба зазначыць, што Крывічы, як кажуць вучоныя, пасуваліся, рассяляючыся ў ва-ўсе бакі. Як далёка рассяліліся Крывічы на поўдзень — аб гэтым пацьвярджаюць археолёгічныя раскопы В. Шукевіча — („Poszukiwanie archeologiczne w pow. Lidzkim, gub. Wil. Kraków 1914.“), Акадэмік Шахматовъ („Къ вопросу объ образованіи Русскаго Народа“) кажа, што Крывічы раней ад іншых усходня-славянскіх плямён па Дняпру і Бярэзіне рухнулі далёка на Поўнач аж да возера Ільменя, за імі пашлі Крывічы Полацкія і Смаленскія. Вось гэтакім чынам Крывічы, скалянізаваўшы адну тэрыторыю, займалі другую, трэцяю і г. д.

## Грамадзкі лад старацаўных Славянаў.

Першапачатны грамадзкі лад Славянаў быў п а т р ы а р х а л ь н ы, г. зн. падставай арганізацыі грамадзкай была сям'я і неагранічаная ўлада бацькі дадзенай сям'і.

Па сьмерці бацькі гэтая ўлада пераходзіла на старэйшую асобу ў сям'і мужчынскага роду, бо жанчыны былі

пазбаўлены роўнапраўя. Ужо пад канец сваей вандроўкі, г. зн. ў IV в., усе Славяне мелі арганізацыю родавую. У склад роду ўваходзіла некалькі сем'яў, дзе традыцыйна ўлада пераходзіла на наступніка (ад супольнага папярэдніка, як у Рымлян „gens"). На чале роду стаяў старшына, які выконываў сваю ўладу з удзелам усіх дарослых мужчын гэтага роду. Пры гэтакім ладзе ўсе сябры роду чуліся між сабой роўнымі і былі вольнымі. Большых грамадзкіх арганізацыяў, як род, Славяне сьпярша ня мелі, дзеля гэтага часта былі змаганьні між родамі выключна із асабістых павадаў старшынаў родавых. Адсюль пачулася патрэба запабегчы злу і дзеля гэтага пачалі злучацца ў большыя арганізацыі, якія называліся, хоць ня ўсюды, — брацтвамі, задругамі. Брацтва — гэта ёсьць паняцьце родавае, што адносілася да самой арганізацыі людзей. Брацтвы, займаючыя большы абшар тэрыторыяльны, былі называны ,,ополе". ,,Ополе" — гэта ёсьць паняцьце тэрыторыяльнае. Гэтая назова была знаная толькі ў Паўдзённых і Заход. Славян.

Усходнія Славяне арганізацыі родавыя наз. ,,вервямі"— грамадамі. Гэтая ўспомненая арганізацыя ня мела характару мілітарнага — гэта была вольная арганізацыя, у якой ролю адыгрываў момэнт тэрыторыяльны. Галоўнага павадыра ў выпадку вайны Славяне называлі ваяводай, баярам і інш. Некаторыя вайсковыя павадыры, часта нават па сканчэньні вайны, затрымлівалі ў сваіх руках уладу над племем і гэтае становішча трымалі аж да сьмерці, а няраз перадавалі яе сваім насьледнікам. Гэтакім чынам створана ўлада князёў. Князі мелі ўладу манархічную. Некаторыя з князёў здалелі злучыць некалькі суседніх плямёнаў, дзякуючы чаму з часам патварыліся **народы**.

Характэрнай рыскай Славянаў ёсьць тое, што яны вельмі адважна і рашуча заўсёды, у разе нападу чужынцаў на іх тэрыторы, баранілі сваей незалежнасьці. Іхная тэрыторыя і народ для іх было ўсё, у абароне чаго яны заўсёды заўзята і рашуча змагаліся.

Даўнейшыя гісторыкі няслушна кажуць, што Слявяне былі вельмі мірныя-спакойныя, што вайны ня любілі, а нават ня зналі аружжа. Фальшывы погляд, што Славяне ня былі энэргічнымі і ваяўнічымі, разьбіты моцнымі доказамі.

**М. Пяцюкевіч.**

(д. б.)

Папраўка. Праз карэктарскі недагляд закралася памылка ў стацьці ,,Крыху з нашай гісторыі" стр. 5, 16 радок з верху № 3 ,,Ш. М." апушчана, што і група германскіх народаў паходзіць ад Індо-эўропэйцаў.

# Куток для спорту.

## Аб нямецкай гімнастычнай сыстэме.

Тварцом нямецкай гімнастычнай сыстэмы ёсьць Фрыдрык Людвік Яан (Jahan), які жыў ад 1778—1852 года. Змалку ён ахвотна гімнастыкаваўся. Быў вялікім патрыётам і лятуцеў аб злучэньні ўсяе Нямеччыны, падзелянай тады яшчэ на шмат малых гаспадарстваў. Дзеля гэтае мэты ён яшчэ за сваіх студэнскіх часаў гуртаваў усю студэнскую моладзь у гэтак званыя „Burschenschafty“ (буршэншафты).

Мэтай гэтых арганізацыяў было разбуджэньне і падняеньне патрыятызму праз аднаўленьне бацькаўскіх ідэалаў і традыцыяў, праз працу і сумленнасьць.

У 1811 годзе закупіў Яан пад Бэрлінам першую ў той час на сьвеце гімнастычную плошчу, на каторай сам энэргічна кіраваў гімнастыкаваньнямі моладзі. Усю гімнастыку ён плянова пасартаваў, творачы сваю ўласную сыстэму, каторую называе турукундэ (Turukunde).

Галоўнай мэтай пры тварэньні гімнастычных таварыстваў у яго была: утварэньне на скорую руку аддзелаў — асвабадзіцеляў бацькаўшчыны. Дзеля гэтага сыстэма Яана ня ёсьць усестаронняя. Яна мае мэту зрабіць з гімнастыка сілача; нахіляе ўжо сваю ўвагу на частку мускалаў, мала рупячыся аб цэлым арганізме.

Нямецкая гімнастычная сыстэма Яана складаецца з цэлага раду гімнастыкаваньняў, прытарновуючых цела да трох галоўных прыладаў: жэрдзі, дзеравяннае кабылы і парэнчаў. Раіць таксама гімнастыку гірамі.

Сыстэма Яана агульнаму арганізму ня ёсьць карыснай, нават можа быць шкоднай: гімнастыка гірамі, ці наагул паднашэньне якіх-небудзь цяжараў, выробляе толькі рукі, шкодна ўплываючы не аддыханьне. Апрача гэтага ад паднашэньня цяжараў на рухах, галаве і шыі раздымаюцца жылы. Гімнастыка на парэнчах мае падобны ўплыў, да гэтага яшчэ даходзіць тое, што ў даўна гімнастыкуючых на парэнчах робіцца не нармальнае падняцьце плечаў з апушчэньнем уніз тулава, ад чаго часта паўстае звужэньне грудзей.

Ува ўсіх гімнастычных вучэньнях нямецкае сыстэмы няма практычнае гімнастыкі, маючай прытарнаваньне ў штодзенным жыцьці чалавека.

Маральны ўплыў гэтай сыстэмы ёсьць таксама незадавальняючы, дзеля таго, што вучань пераважна не задавальняецца з рэзультатаў свае гімнастыкі і мае цягу да розных каркаломных штучкаў. Гэта спрые разьвіцьцю пустаты і вынашэньня над другімі.

Ня гледзячы на ўсё гэта, нямецкая сыстэма Яана запанавала ў той час ува ўсіх культурных народаў. Гэтаму спрыяла карыснае ў ёй злучэньне патрыятызму з фізычным здароўем і сілай. А яшчэ больш спрыяла гэтаму тое, што немцы перамаглі зьненавіджанага ворага француза; гэта апошняе дадало нямецкай гімн. сыстэме многа разгалосу, тым балей у тых народаў, якія лятуцелі аб сваей незалежнасьці.

Цяпер аднак гімн. сыстэма Яана ўсюды ўступіла месца Швэцкай сыстэме Лінга і яго сына Гіяльмара. Нават самыя Немцы, хаця й называюць Яана бацькай гімнастыкі, у цяперашніх часах прымаюць Швэдзкую сыстэму фізычнага выхаваньня.

**Ул. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## БЕЛАРУСЬ, УСТАНЬ.

Беларусь, устань
і навокал глянь.

Глянь, як моцна ўжо сьвітае;
ўжо сусед свабоду мае,

а яшчэ сьпіш;
ўстань, паглянь ты ўвыш.

Устань, глядзі, працуй,
цела й дух гартуй,

каб хапіла нам ахвоты
дружна ўзяцца да работы

будаваць край свой.
Помні, братка мой.

Устань і не бядуй,
сваю долю куй.

Куй, гартуй свае нарогі,
ўсіх будзі, стаўляй на ногі,

Хай ўзгаруць зямлю,
чысьцяць хай ральлю.

Устань і ты, ня плач,
хаця-б біў палач:

ведай, што ня будзе рады
і ніхто ня дасьць спагады,

хаця б з нашых сьлёз
акіян узрос.

Братка, дык ляпей
бійся ты сьмялей.
Бій, грызі ліхога ката,
а паглянеш, што ён брата
перастане біць
і лепш будзем жыць.
Мей надзею, брат,
яшчэ згіне кат.
Прыдзе нам яшчэ свабода,
ей пакліча зоў Народа,
які хоча жыць
і свабодным быць.

**Ул. Казлоўшчык.**

## НА РОДНЫ ПАЛЕТАК!
(У 1-я угодкі „Шляху Моладзі“)

Мінулі марозныя зімовыя ночкі
І поўныя сонца — сьмяюцца дзянёчкі,
З сну зімняга будзіцца сьвет.

І жаўранкі трэль, што ў небе пяе
І рэчка, што путы парвала свае
Нясуць нам вясеньні прывет...

І нівы нядоўга ў сьнежняй пасьцелі
Ляжаці так будуць—шпакі прыляцелі,
Абселі рад роднелькіх ліп...

Зазьяў ў панадворку пад сенейкам плуг:
Мы хутка да працы—на поле—на рух
Выходзім з вясковых сяліб.

Вясна, хоць і ране нам сэрца да болі,
Няхай-жа прыцішыць ўжо песьні няволі.
Гэй, выйдзем араць, баранаваць!

Успахаці дзірваньне нам труду ня страх,
Сеялку на шыю— па родных палях
Жывое зярнё засяваць!

Хоць бура палетак затопіць уцені
І босыя ногі скрываваць каменьні —
Для роднае хаты зьнясём!

Хай кожны з нас будзе на жніва гатоў:
Як узойдзе на ўсходзе зарніца як кроў—
Мы з песьняй у поле пайдзём!

**В. Б.**

# Першая пралесачка.

Як толькі сонейка паказалася і прыгрэла зямельку сваімі так лагодненькімі коскамі, зараз-жа ў момант выскачыла з зямелькі такая прыгожанькая, міленькая першая пралесачка. Хто не праходзіў каля яе — кожны застанаўляўся і любаваўся ёю. Сонейка з кожным днём усё мацней і мацней прыгравала і песьціла яе, як маці роднае дзіцятка, якое яшчэ знаходзіцца ў калысцы.

Пралесачка з кожным днём усё падрастала, харашэла і больш да сябе людзей заманівала. Нават сосны, ёлкі і бярозы і тыя песенькі пялі гэтай так міленькай, прыгожанькай пралесачцы, каб толькі яна ня смуцілася! I здавалася-б, што ўжо лепшага шчасьця для яе і ня трэба, як цапер пралесачцы жывецца на вольнай прыродзе пад адкрытым небам. Але гэта яе не здаваляла; ёй здавалася, што каб яна папала да якіх паноў, дык настала-б яшчэ лепшае жыцьцё...

Так і сталася.

Пасьвілі пастушкі кароўкі, прышлося ім заўважыць гэту так прыгожанькую пралесачку; яны, доўга не чакаючы, узялі, вырвалі яе з зямелькі, панясьлі ў мястэчка для сваей быўшай вучыцелькі.

Вучыцелька, атрымаўшы падарак — прыгожанькую пралесачку, вельмі ўсьцешылася і сама ня ведала, гдзе яе падзець. Прабавала прышпіліць да капялюша і да сукенкі, але нарэшце наліла ў шклянку вады, усадзіла пралесачку ў шклянку і паставіла на стол.

Кожны дзень да вучыцелькі прыходзілі госьці і якназлосьць, —хто ня прыдзе, кожны перш-найперш падходзіў да стала, браў шклянку з пралескай і падносіў да свайго носу; гэта вельмі пралесачцы не спадабалася.

Давай яна праклінаць гэта панскае жыцьцё... Успомніла яна цяпер тую хвілінку, што як жыла на вольнай прыродзе, дык ніхто на яе ня сьмеў паднесьці і рукі, а цяпер яе аж да самага носу падсоваюць, вот жыцьцё дык жыцьцё!..

I так бедную пралесачку нюхалі і нюхалі, а яна з кожным днём сохла і сохла і так мусіла з вялікім сумам разьвітацца з гэтым сьветам...

Я. Б.

# Лісты.

ВЯСЁЛАЕ і СУМНАЕ.

**м. Смаргоні**, Ашмянскага пав. У нашай старане ёсьць арганізацыі беларускія і польскія, да якіх належыць пераважна моладзь тутэйшая. Старэйшае грамадзянства прыглядаецца да пастулкаў гэтых арганізацыяў і выдае аб іх суд.

Я вельмі цікаўлюся гэтай апініяй і прыслухоўваюся, што дзе і як хто гаворыць.

Восьжа магу з прыемнасьцю падзяліцца з паважанамі чытачамі „Шляху Моладзі“ вельмі добрай апініяй аб беларускай культурнай арганізацыі Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Бо сапраўды, як-жа можна што кепскае гаварыць аб гэтай арганізацыі, калі дзе яна існуе, дык адтуль сапраўды разыходзіцца культура — ладзяцца навучныя лекцыі, спэктаклі, паступкі сяброў арганізацыі гэтае таксама людзкія, ня так як напр., дзе існуе польская арганізацыя „Strzelec“, замест культуры, адбываюцца бойкі, як гэта было нядаўна у в. Панізі, Беніцкае гм.

Вось-жа гэта хай будзе яшчэ адзін прыклад, што трэба нам тварыць свае арганізацыі, да іх толькі належаць, а ў чужых польскіх колах нашае нагі не павінна нават быць.

Падсмаргонскі.

## ДОБРЫЯ ДУМКІ.

**Ружанская гм.** Косаўскага пав. Моладзь нашае старонкі што раз больш разумнее. Сведчыць аб гэтым агульная гутарка кінуць піць гарэлку, курыць папяросы, а за гэтыя грошы выпісаць беларускую газэту і купіць кніжак-залажыць бібліятэку і замест займацца сваркамі, рабіць агульныя чытаньні кніг.

Думка вельмі добрая, дык трэба пажадаць, каб-жа як найскарэй была здзейсьнена. Гэта так-жа хай паслужа добрай радай для беларускае моладзі іншых ваколіц. Трэба ведаць, што тады толькі мы здабудзем тое сабе лепшае жыцьцё, як будзем ашчаднымі, маральнымі, здаровымі і калі будзем падтрымліваць свае беларускія ўстановы.

Я. Ружанскі.

# Хроніка.

**12-га траўня с. г. будуць судзіць Рэдактара „Шляху Моладзі“ Мар'яна Пяцюкевіча,** абвінавачанага па 132 арт. К. К. за сканфіскаваны № 8 „Шляху Моладзі“.

**На сьвяткаваньне юбілею Вітаўта** Вялікага Князя прэзыдыум Бел. Нацыянальнага Камітэту выбрала адумысловую камісію з 3-х асоб, у склад якое ўвайшлі кс. Адам Станкевіч, сэн. Багдановіч і пасол Ф. Ярэміч. Камісія гэтая мае весьці перагаворы з Літоўскім Тымч. Камітэтам дзеля сьвяткаваньня Вітаўтаўскага юбілею.

**Новы ўрад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** выбраны на гадавым сходзе Рады Б.І.Г.іК.; ў склад яго ўвайшлі: кс. В. Гадлеўскі, як старшыня, сэн. В. Багда-

новіч і пас. Ал. Стэповіч як віцэстаршыні, кс. Ад. Станкевіч— скарбнік, рэд. С. Сьвістун — сэкрэтар, пас. Ф. Ярэміч і М. Пяцюкевіч як сябры ўраду. На гэтым-жа сходзе выбрана і Рэвізыйная Камісія, у склад якой ўвайшлі сэн. Рагуля, студ. Т. Куніцкі, рэд. Я. Пазьняк і коопэр. Э. Будзька. Новы ўрад мае дамагацца рэалізацыі асыгнаваных крэдытаў у польскім дзяржаўным буджэце на беларускія вучыцельскія курсы, вучыцельскую сэмінарыю і выдавецтва, а так-жа далей дамагацца канцэсіі на беларускую вучыцельскую сэмінарыю. У гэтай апошняй справе ўжо хадзіла дэлегацыя Б.І.Г.іК., у асобах кс. В. Гадлеўскага і пас. Ф. Ярэміча да Школьнага Куратара ў Вільчі. Аб справаздачы ўраду Б.І.Г.іК. і далейшым пляне працы падробна апішам у наступным нумары „Ш. М."

**У 30-я ўгодкі сьмерці Ф. Багушэвіча**, аб якіх мы пішам на іншым месцы, Урад Бел. Інстытуту Г. і К. мае наладзіць сёлета летам у Жупранах, дзе пахаваны Фр. Багушевіч, набажэнства і акадэмію. Будуць так-жа выданыя нанова ў гэтым годзе ўсе творы Фр. Багушэвіча.

**Былы пасол Ю. Сабалеўскі** 1 г. м. звольнены з вастрогу з прычыны таго, што Суд Апэляцыйны, разглядаючы яго справу, не знайшоў праступку ў абвінавачаньні і Ю. Сабалеўскага апраўдаў. Трэба зазнвчыць, што Акружны Суд засудзіў гр. Сабалеўскага на 6 гадоў цяжкога вастрогу і што гр. Сабелеўскі адседзіў нявінна 1 год і 10 месяцаў у вастрозе.

**„Гайсак".** Як даведваемся, у хуткім часе мае паўстаць у Вільні; новая беларуская спартовая арганізацыя — „Гайсак"; ужо стварылася ініцыятыўная група і апрацоўвае статут. Галоўным ініцыятарам гэтае арганізацыі ёсьць гр. Ул. Казлоўскі, супрацоўнік нашае часопісі.

**Новыя кніжкі і газэты.** Нядаўна вышлі з друку і паступілі ў прадажу наступныя кніжкі і газэты:

„Smyk bielaruski" — Фр. Багушевіча, юбілейнае і папраўлянае выданьне Бел. Інстытуту Г. і К. Кніжка гэта зьмяшчае вельмі прыгожыя вершы Бацькі беларускага адраджэньня, якім ёсьць Фр. Багушэвіч, кніжка каштуе 60 гр.

„Jak Hanula źbirałasia ŭ Arhientynu" — А. В. Выданьне „Chryścijanskaj Dumki". Вельмі цікавая брашурка, напісана вершам. Кніжка каштуе 30 гр.

„Daroha kryža" — Я. Быліны. Выданьне „Chryścijanskaj Dumki". Рэлігійныя песьні на пост. Кніжка каштуе 30 гр.

„Школа і Жыцьцё" — літэратурна-грамадзкі і пэдагогічны месячнік Т-ва беларускіх вучыцялёў № 1—2 за м-ц студзень і люты. Выходзе ў Латвіі ў Рызе.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

„Родная Мова“ — літэратурна-навуковы месячнік пад рэдактарствам Янкі Станкевіча.

„На Варце“ — тыднёвая палітычная газэта, якую выдае Бел. Сял.-Раб. Клюб. Друкуецца яна ў Варшаве.

Галоўны склад вышэй паданых кніжак: Беларуская Кнігарня „Пагоня“ ў Вільні, Людвісарская вул. № 1.

**З жыцьця братніх народаў.** У Харкаве ў Радавай Украіне адбываецца бальшавіцкі Суд над „Саюзам Асвабаджэньня Украіны“, на чале якога стаяў акадэмік Ефрэмаў. Саюз гэты, як ужо сам назоў кажа, меў на мэце вызваленьне Украіны з пад панаваньня камуністаў.

— Літоўская арганізацыя моладзі ў Вільні, якой апякуецца кс. пралат Вісконт, нядаўна атрымала ад Папы Рымскага багаслаўленьне.

**З Польшчы.** Пасьля таго, як не ўдалося праф. Шыманскаму і паслу Яну Пілсудскаму ўтварыць ўрад, прэзыдэнт даручыў зрабіць гэта палкоўніку Слаўку, старшыні клюбу Б.Б. (паслоў пілсудчыкаў), які за некулькі гадзін утварыў новы ўрад з старых міністраў прошлых друх урадаў. — Пасьля прыняцьця буджэту прэзыдэнт зачыніў буджэтную сэсію Сойму. Але ходзяць чуткі, што апазыцыйныя партыі будуць дамагацца склікаць у хуткім часе Сойм на надзвычайну сэсію, на якой паміж іншым мае быць выражаны недавер для ўраду палк. Слаўка. Ходзяць так-жа чуткі аб распушчэньні Сойму і вызначані новых выбараў. — Сацыялісты прыбіраюцца вельмі гучна сьвяткаваць работніцкае сьвята 1-га мая. У гэты дзень мае быць страйк у ва ўсіх фабрыках і майстроўнях. Камуністы так-жа гатуюцца да 1 мая; з гэтае прычыны ўлады арыштавалі нядаўна ў Варшаве больш як 60 чалавек, а так-жа арыштоўваюць і на правінцыі.

**З заграніцы.** У Нямеччыне зьмяніўся ўрад. Начале новага ўраду стаіць Брунінг, які належыць да цэнтральнай партыі.

— У Індыі, Ганді вялікі індыйскі павадыр заклікае да агульнага байкоту ўсяго таго, што ангельскае, каб такім спосабам змусіць англійцаў да асвабаджэньня Індыі. Ганді мае вялізарны ўплыў ў народзе; паміма таго, што ён забараняе людзям ісьці за сабой, аднак у недалёкай адлегласьці ідзе вялікая таўпа народу, хочучая слухаць яго прамоў. Ганді не пазваляе змагацца з англійцамі фізычнай сілай, а кажа рабіць гэта сілай маральнай. Так напр. на чыгунцы лажыцца некалькі тысяч чалавек перад тым, як мае ісьці ангельскі цягнік і такім спосабам тамуюць рух. Апошнім часам арыштавалі двух сыноў Гандяга.

— У гэтым месяцы ў Латвіі выбраны новы прэзыдэнт латвіскай рэспублікі Альбэрт Квесіс — кандыдат сялянскага латвійскага саюзу.

— Лёндынская канфэрэнцыя разаружаньня на вадзе не дае і мусіць ня дасьць ніякіх вынікаў.

# Усячына.

**На матацыклю праз пустыню Сахару** ў Афрыцы выбраўся праехаць адзін спартовец Пэуфот дарогай з Альгеру да Эліcабатвільлю каля возера Чад. Такой падарожы да гэтага часу нікому неўдалося прабыць; як даносяць газэты спартовец гэты праехаў ужо палову дарогі зусім шчасьліва.

**Найбольш земляробаў-вяскоўцаў,** як падаюць статыстыкі, мае Расея, бо 84 працэнтаў, а толькі 16 прац. меставых людзей. Найбольш меставай ёсьць Англія (бяз Шкоцыі), дзе налічаецца 78 проц. мяшчан і 23 прац. вяскоўцаў. Нямеччына мае ў местах 63 прац. жыхарства, а 37 прац. на вёсцы. Аўстрыя ў местах 60 проц., а на вёсцы 40 прац. Злуч. Штаты Амэрыкі — 51.4 прац. у местах і 48.6 на вёсцы.

**Англійскі прэм'ер Мак Дональд**, як піша француская газ. „La Croix" нават на банкетах перад ядою пасьвячае хвіліну часу на малітву. Трэба зазначыць, што Мак Дональд належыць да найбольш паступовай ангельскай Партыі Працы.

**Марконі,** ведамы італьянскі вынаходца нядаўна з карабля „Электра" ў Генуіі (Італія) ў порце запаліў пры помачы свайго вынаходу 1000 электрычных лямпак аж у м. Сыднэй у Аўстраліі, а так-жа вёў тэлефонічную гутарку з Генуіі з местам Сыднэй.

**Скочыў з вышыні 5166 мэтраў.** 19 прош. месяца с. г. у м. Кессэль у Нямеччыне лятун Г. Фріесэлер і акрабат Г. Рэш даканалі новага рэкорду. У працягу 55.6 м. яны ўзьляцелі на аэрапляне на вышыню 5.166 мэтраў і адтуль акрабат, пры помачы спадахрону, выскачыў і па 20 мінутах зьляцеў зусім шчасьліва на зямлю. Трэба зазначыць, што апрача ўсялякіх іншых перашкод дакучаў яму вялікі холад, дасягаючы 30 градус.

**5 міліёнаў** фунтаў штэрлінгаў ангельскі ўрад пастанавіў выдаць на будову тунэлю пад каналам Ля-Манш для камунікацыі паміж Англіяй і Францыяй.

# Наша пошта.

Т. Асіповічу, Ю. Сергіевічу, Громаву Гаротнаму. Вершы Вашы слабаватыя, але паправім і будзем друкаваць у наступных нумарох „Шляху Моладзі.

К. П. Вашы вершы да друку не падходзяць, пішыце лепш прозай і зважайца на мову.

Я. Салаўю. З матэрялаў скарыстаем, дзякуем.

Маладому. Вершы Вашы слабыя, патрабуюць лепшае апрацоўкі.

І. Пуп. Вашы вершы да друку непадходзяць, пішыце лепш прозай.

(д. б.)